**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

28.01.2017

**Трактарнае ралі ПАРЫЖ-~~ДАКАР~~-МОСАР**

Пырскі шампанскага ад пераможцаў!




**У мінулую суботу славутая пастаўская вёска Парыж і такая ж славутая глыбоцкая вёска Мосар, паміж якімі наўпрост па карце – 9 км, апынуліся ў адначассе ў эпіцэнтры самай важнай падзеі дня краіны – трактарнага ралі Парыж-Мосар.**

*Працяг на стар. 4.*



ISSN 2077-8023



**Гарадоцкі раён**

# Ля разбітага карыта

■ Кастусь Александровіч

**Працяглыя негатыўныя працэсы з-за безгаспадарчасці на вёсцы ўжо балюча калечаць лёсы працуючых там людзей.**

Над калектывам Гарадоцкага райаграпрамснаба чорныя хмары навіслі яшчэ летась. Гэты калектыў адным з першых у Беларусі абласны Эканамічны суд прызнаў банкрутам у кастрычніку 2016 года з наступнай ліквідацыяй. Аднак у 150 работнікаў гаспадаркі з'явіліся надзеі выжыць, калі мясцовы райсельгасхарч падаў апеляцыю, што яна яшчэ зможа аднавіць плацежаздольнасць і падняцца з кален. На жаль, прызначаныя судом эксперты вынеслі канчатковы вердыкт, што гэта гаспадарка не ў стане прайсці санацыю. Нягледзячы на адчувальную дзяржпадтрымку, даўгі калектыва перад амаль 60 крэдыторамі толькі раслі і дасягнулі 73 мільярдаў старых рублёў. Апошнім часам яны выраслі нават у 6,5 разоў, а праблемы нарасталі, як снежны ком. Затраты на вытворчасць зерня, малака і мяса яўна перавышалі вынікі асноўнай дзейнасці, замест даходаў павялічваліся страты. Бясконца гэта працягвацца не магло, і ў выніку суд даручыў антыкрызіснаму ўпраўляючаму Леаніду Міхайлаву ліквідаваць райаграпрамснаб сёлета да 1 жніўня. Найбольш балючым пытаннем стала пытанне аб працаўладкаванні вялікай колькасці работнікаў, якія стануць беспрацоўнымі. На пагашэнне даўгоў пойдуць сродкі ад продажу 2 тысяч галоў статку, у тым ліку 570 цёлак. Гэта няпростая задача, улічваючы складанае фінансавае становішча многіх гаспадарак вобласці. Незразумела, што далей рабіць і куды перадаваць жылы фонд гаспадаркі, бо адпаведны алгарытм дзеяння ў краіне не адпрацоўваўся. Іншая справа, што горкі лёс гарадоцкаў могуць паўтарыць многія айчынныя гаспадаркі, якіх урад Беларусі прызнаў нядаўна банкрутамі.

**Ушыцкі раён**

# Вазьму чужы боль

■ Станіслаў Раманчук.

**Сёлетні год вогненнага петуха пачаўся з моцных маразоў, што прывяло да росту колькасці пажараў і загінуўшых у агні.**

Дзякуючы спрацаваўшаму пажарнаму апавяшчальніку ўдалося пазбегнуць гібелі шматдзетнай сям'і з вёскі Старое Сяло Ушацкага раёна. У дзень трагедыі гаспадар дома пайшоў раненька на працу, а жонка з трыма дзецьмі яшчэ спалі. Людзі выбеглі на вуліцу крыху адзеўшыся, гадавалага малыша захінулі коўдрай. Ад іх дома з маёмасцю неўзабаве практычна нічога не засталося. На бяду першымі адгукнуліся суседзі, далі прытулак, абагрэлі, супакоілі, накармілі. Неўзабаве пра гэта здарэнне ведаў ужо ўвесь раён, апаратыўна была аб'яўлена дабрачынная акцыя "Сям'я – сям'і", якую сталі каардынаваць мясцовы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва і рэдакцыя райгазеты. Там не чакалі проста шквалу бесперапынных званкоў. Людзі цікавіліся, якім чынам можна дапамагчы гэтай сям'і, у якой двое з чатырох дзяцей ужо студэнты, а самая старэйшая была на сесіі ў Віцебскім дзяржуніверсітэце. Акрамя райцэнтра адгукнуліся жыхары і аддаленых вёсак, кожны зямляк дапамагаў, чым мог. Многія работнікі прадпрыемстваў і арганізацый раёна складіся грашыма на дапамогу пагарэльцам, а некаторыя падаравалі сваю мэблю, гаспадарчыя тавары. Калектыў райаддзела МНС, які тушыў гэты пажар, таксама аказаў сям'і значную дапамогу грашыма, сталовым посудам, дзіцячым адзеннем і лялькамі. Агульнымі намаганнямі тысяч нераўнадушных землякоў пацярпелая сям'я Алексяёнак-Магеркаў зноў займела сродкі для жыцця і пачынае абжывацца зноў у жылым доме сядзібнага тыпу, які ёй выдзеліла мясцовае сельгаспрадпрыемства "Ільюшынскі".

**Пастаўскі раён**

# На варце на зямлі і ў небе

■ Чэслаў Якубовіч.

**Акрамя сілавых структур і арміі пастаянна, днём і ноччу знаходзяцца ў стане баявой гатоўнасці па абароне жыццяў беларусаў падраздзяленні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.**

І хоць звычайна іх дзейнасць непрыкметная, але толькі на Віцебшчыне летась было выратавана ад гібелі ў агні больш ста чалавек і каля тысячы будынкаў. У Пастаўскім раёне выратавалі жыцці 5 землякоў, эфектыўна рэагавалі і на на іншыя здарэнні з людзьмі, пра што паведаміў на ўрачыстым сходзе з нагоды прафесійнага свята начальнік РАНС, маёр унутраной службы Аляксей Кісель. Дарэчы, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў краіны, у райцэнтры дзейнічае сапраўдны гарнізон выратавальнікаў. Акрамя выратавальнай пажарнай часці тут дыслацыруецца верталётны атрад авіяцыі МНС Беларусі пад камандаваннем палкоўніка Алега Яромы. У мінулым годзе яго экіпажы дапамаглі знайсці грыбнікоў і ягаднікаў, якія заблудзіліся не толькі ў сваім, але і ў Докшыцкім, Расонскім, Слуцкім раёнах. Штомесяц у экстраных сітуацыях авіятары дастаўляюць па 2-3 цяжкахворых у вядучыя клінікі краіны на французскіх верталётах "Экюрэль". На выпадак няштатных сітуацый экіпажы дзяжураць і на іншых базах у Гомелі, Пінску паблізу дзяржаўнай граніцы. Нават карпарацыя "Газпрам" заказвае паслугі авіятрада, калі ўзнікае неабходнасць хутка абследваць з паветра стан магістральных газаправодаў у Еўропу. Дарэчы, у святочны дзень мясцовыя выратавальнікі пасля сходу правялі таварысцкі матч па валейболе з камандай Пастаўскага дзяржкаледжа, у якім ёсць арганізацыя маладых выратавальнікаў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 02.02.17 | | | | Пятніца 03.02.17 | | | | Субота 04.02.17 | | | | Нядзеля 05.02.17 | | | | Пан.06.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -5 | -6 | -4 | -6 | -5 | -4 | -1 | -3 | -4 | -4 | -1 | -3 | -4 | -3 | -3 | -9 | -12 | -13 | -9 |
| Ціск | 756 | 755 | 753 | 751 | 750 | 750 | 749 | 749 | 749 | 749 | 748 | 748 | 749 | 750 | 752 | 755 | 758 | 760 | 761 |
| Вецер м/сек | 3 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 1 Пд | 2 Пд-У | 1 Пд-У | 0 ШТЛ | 3 Пн-З | 1 З | 1 Пн | 2 Пн | 4 Пн-У | 5 Пн-У | 4 Пн-У | 4 Пн | 6 Пн |
| Вільготнасць | 88 | 89 | 84 | 91 | 91 | 91 | 86 | 92 | 92 | 93 | 83 | 91 | 91 | 92 | 81 | 85 | 86 | 86 | 78 |

# Аб самым надзённым

## ПРЫ ЦЯПЕРАШНІХ ПАДЫХОДАХ НЕГАТЫЎНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ БУДУЦЬ ТОЛЬКІ ЎЗРАСТАЦЬ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Справа ў тым, што пятая частка з 3 тысяч буйнейшых айчынных дзяржпрадпрыемстваў сталі стратнымі. Калі ў нас не пачнуць вырашаць наспеўшыя праблемы, то мы можам дачакацца новага крызісу, які калісьці напаткаў Балгарыю.**

Адным з самых сумных вынікаў 2016 года стала тое, што рэальныя даходы беларусаў зноў ўпалі. Напрыканцы мінулага года многія з суайчыннікаў вырашалі задачы элементарнага выжывання, бо іх сярэднія заробкі знізіліся нават ніжэй майскага ўзроўню. З улікам росту цэн, хоць летась інфляцыя крыху запаволілася, аднак падзенне намінальных даходаў працаўнікоў у Беларусі назіралася ўжо 29 месяцаў запар – такі вось сумны антырэкорд. І на гэтым вось негатыўным фоне настойліва ў вышэйшых эшалонах улады загаварылі аб дасягненні сёлета зноў рубяжоў 500-доларавых зарплат.

Ад такіх тэмпаў нават дыханне перахоплівае, бо за кароткі перыяд часу ў няпростай сітуацыі з продажамі беларускіх тавараў на знешніх рынках трэба зарплаты павялічыць нават на 38 %. Самае сумнае, што чамусьці разумныя людзі бяруць у нас пад казырок. Сталі на месцах чыноўнікі ставіць падначаленым адпаведныя задачы, хоць цвярозым розумам разумеюць, што яны не выканальныя. Цудаў падобнага роду ў нармальнай эканоміцы не бывае. Праўда, яны на беларускай зямлі перыядычна здараюцца, аднак потым расплачваемся гіперінфляцыяй і дэвальвацыяй нацвалюты, як гэта назіралася ў 2009, 2011 і напрыканцы 2014 года.

Увогуле, каб у нас не праводзіліся перыядычна дэнамінацыі рубля, то ў айчыннай, пераважна яшчэ савецкай структуры эканомікі, як падлічана спецыялістамі, беларусы цяпер атрымоўвалі ў сярэднім дзесьці па амаль 72 млрд. рублёў, бо іх інфляцыйны рост з моманту распаду СССР у нашай краіне склаў 267 млн. разоў. Дарэчы, беларускія ўлады абяцалі нам мець зарплату 500 доларадў яшчэ ў 2010 годзе, а потым выйсці на рубеж тысячы USD. На гэты раз такое патрабаванне агучана катэгарычна: "Украдите, откопайте, найдите – что угодно. Но $ 500 должно быть выполнено".

Прэзідэнт паставіў такую задачу пры прызначэнні кіраўніка сваёй новай Адміністрацыі, якую ўзначаліла зноў прадстаўніца Віцебшчыны Наталля Качанава, у мінулым віцэ-прэм'ер і старшыня Наваполацкага гарвыканкама. Перад ёй і новымі назначэнцамі стаяць, сапраўды, вельмі няпростыя пытанні, а перспектывы выхаду з рэцэсіі айчыннай эканомікі на невялікі рост даволі сумніўныя з-за шэрагу фактараў. Дасведчаныя эканамісты папярэджваюць, што без новых знешніх займаў наша краіна можа сёлета да канца года ўшчыльную падысці да дэфолту. Па Беларусі назіраецца рост неплацяжоў па ранейшых крэдытах і банкаўская сістэма працуе ў экстрэмальных умовах.

Справа ў тым, што пятая частка з 3 тысяч буйнейшых айчынных дзяржпрадпрыемстваў сталі стратнымі. Калі ў нас не пачнуць вырашаць наспеўшыя праблемы, то мы можам дачакацца новага крызісу, які калісьці напаткаў Балгарыю. Перамовы аб новых крэдытах з МВФ і ЕАБР прабуксоўваюць на фоне прыкметнага пагаршэння адносін з Расіяй. Дайшло да таго, што А. Лукашэнка не паляцеў у Санкт-Пецярбург на саміты Еўразійскага эканамічнага саюза і АДКБ, а замест гэтага правёў у Мінску нараду па пытаннях прыцягнення знешняга фінансавання. Тым часам казахскі лідар Н. Назарбаеў выказаў публічна надзею, што яго беларускі калега ўсё ж падпіша Мытны кодэкс ЕАЭС.

Услед за гэтым адзін з кіраўнікоў урада РФ А. Дварковіч пацвердзіў, што Расія паспрабуе ў судовым парадку вырашыць спрэчку наконт несправядліва высокіх для нас дагаворных цэн на газ. Адначасова сумнавядомы Рассельгаснагляд пачаў абвінавачваць Беларусь у нібыта незаконных рээкспартных пастаўках украінскага мяса на суму 100 млн. долараў. Рускія ветэрынары забаранілі поўнасцю перад гэтым продаж на сваім рынку мясамалочнай прадукцыі з 20 нашых прадпрыемстваў. Таксама зноў рускі генерал-лейтэнат Л. Рашэтнікаў, дырэктар Інстытута стратэгічных даследванняў РФ, заснаванага Пуціным, заклікаў беларусаў адумацца, бо не можа быць, па яганым перакананні, ніякай незалежнай ад Крамля Беларусі.

Падобныя крокі – звенні аднаго ланцуга ад залішне моцна аднабаковай прывязкі да ўсходняга суседа і асноўнага гандлёвага партнёра. Наша краіна летась ужо панесла адчувальныя страты валюты ад змяншэння паставак расійскай нафты. На гэты год паабяцалі з Масквы скараціць пастаўкі нафты з 24 да 18 млн. тон. Як ні горка, але акрамя неспрыяльных знешніх прычын у беларускіх заводаў і фабрык існуюць і ўнутраныя структурныя праблемы з якасцю прадукцыі і яе цаной. Добра яшчэ, што пры ўсіх існуючых цяжкасцях Беларусі летась удалося нарасціць свае залатавалютныя рэзервы.

Перад наваГоднімі святамі ў Беларусі ў знак смутку і салідарнасці па ахвярах жудаснай авіякатастрофы каля Сочы на адзін дзень адключылі святочную ілюмінацыю, аднак "газавая вайна" на гэтым не закончылася. У той самы дзень і спікер беларускага парламента У. Андрэйчанка даволі жорстка раскрытыкаваў у Маскве неэфектыўны механізм дзейнасці ЕАЭС і абвастрэнне расійска-беларускіх адносін у розных сферах і на сумеснай граніцы з падачы кармлёўскага кіраўніцтва. Самае лепшае для ўсіх нас будзе, калі ў гэтых узаемных спрэчках Мінск з Масквой знойдуць кампраміс.

## Дзень за днём

**Урад і банкі рэзка скарацілі фінансаванне будаўніцтва жылля. Персанал Беларускай АЭС пачнуць правяраць спецслужбы. А. Лукашэнка папярэдзіў аб аптымізацыі сілавых структур. Летась цэны ў Беларусі выраслі на 11,8 %. Сёлета беларусы будуць кампенсаваць 75 % расходаў на водазабеспячэнне. У беларусаў пачалі правяраць пашпарты ў аэрапортах Расіі. Беларусь і Ганконг дамовіліся аб адмене віз. У Беларусі ўнеслі змены ў Дэкрэт аб дармаедах. Валютныя ўклады беларусаў летась скараціліся на 700мільёнаў долараў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Кандыдат на пасаду дзяржсакратара ЗША Рэкс Тылерсан назваў Расію пагрозай для амерыканцаў і заявіў, што ў рускіх няма юрыдычных правоў на паўвостраў Крым.

**Мексіка.** Прэзідэнт Энрыке Н'ета адмовіўся плаціць за ўзвядзенне сцяны на граніцы з ЗША, але разлічвае мець добрыя адносіны з новай адміністрацыяй Дональда Трампа.

**Польшча.** Прэзідэнт А. Дуда падпісаў новы Закон аб адукацыі, з новага навучальнага года ў краіне не будзе гімназій, увядуць вучобу 8 гадоў у базавых школах і 4 потым – у ліцэях.

**ЗША.** Група сенатараў-рэспубліканцаў ініцыяравала ўвесці новыя, яшчэ больш жорсткія санкцыі супраць Расіі, якімі раней падвяргаўся Іран, за варожыя паводзіны Крамля.

**Сірыя.** Пасля каманды У. Пуціна аб скарачэнні ваеннай групоўкі на авіябазу Хмеймім у правінцыі Латакія прыбылі 4 новыя самалёты штурмавікі Су-25 быццам "па ратацыі".

**Расія.** Дырэктар Інстытута эканомікі РАН РФ Р. Грынберг спрагназаваў сёлета імкліва абвал расійскага рубля з-за нізкіх цэн на нафту і дэвальвацыю па сцэнарыі 2014 года.

**ЗША.** Новапрызначаны прэзідэнт Д. Трамп заявіў аб гатоўнасці зняць санкцыі з Расіі ў абмен на скарачэнне ядзерных арсеналаў і ўвядзенні новай праграмы медстрахавання.

**Украіна.** У ходзе развітальнага візіта віцэ-прэзідэнт ЗША Д. Байдэн заклікаў сусветную супольнасць аб'яднацца ў супрацьстаянні агрэсіўным дзеянням расійскіх улад.

**Галандыя.** Усе пасажырскія і грузавыя цягнікі краіны сталі ездзіць з дапамогай энергіі ветру пасля ўзвядзення новых электрастанцый, раней куплялі энергію ў суседзяў.

**Кітай.** Са згоды ФАС Расіі кампанія Fosun бізнесмена Гуо Гуанчана дамовілася купіць знакаміты будынак у стылі мадэрн магазінаў Ваенгандлю ў 500 метрах ад Крамля.

**Расія.** Лаўрэат Нобелеўскай прэміі беларуская пісьменніца С. Алексіевіч выйшла з Рускага ПЕН-цэнтра, арганізацыю за абліванне Крамля пакінулі і шэраг творцаў РФ.

**Літва.** Прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ ля будынка LRT адкрыла помнік у памяць 14 забітых савецкімі войскамі побач з тэлевежай літоўцаў у студзені 1991 года.

**Кыргыстан.** У выніку падзення ноччу турэцкага грузавога самалёта "Боінг" на дачны пасёлак ля Бішкека загінулі 37 чалавек, былі разбураны 32 жылыя дамы.

**Ірландыя.** На сустрэчы ў Дубліне главы 20 вядучых антыдопінгавых агенцтваў свету запатрабавалі адхіліць усіх спартсменаў Расіі ад міжнародных спаборніцтваў і турніраў.

**Расія.** Кіраўнік Цэнтра стратэгічных распрацовак А. Кудрын прапанаваў павялічыць пенсійны ўзрост для мужчын да 65, для жанчын – да 63 гадоў з-за старэння нацыі.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Палітолаг П. Усаў папярэдзіў, што "бязвізавы ўезд" можа абвастрыць расійска-беларускія адносіны, Масква ўзмацніць ціск на Беларусь і пачне інфармацыйную атаку.

**Астравец.** На ўзводзімай Беларускай АЭС пабывалі эксперты Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі для ацэнкі бяспекі будаўнічай пляцоўкі і ўсяго праекта станцыі.

**Смалявічы.** Пасля працяглага перапынку ў Кітайска-беларускім індустрыяльным парку "Вялікі камень" з'явіўся новы рэзідэнт, кампанія з Чжэцзяня па вырабе радыятараў.

**Беразіно.** Прэзідэнт узяў пад асабісты кантроль ход расследавання гучнага забойства мясцовага бізнесмена ля райцэнтра, якога застрэлілі і спалілі потым у аўтамабілі.

**Мінск**. Дэпутат парламента ад АГП А. Канапацкая звярнулася да А. Лукашэнкі з патрабаваннем адмяніць спрэчны Дэкрэт № 3 аб дармаедах, калі эканоміка ў крызісе.

**Мсціслаўль**. Прэс-сакратар Дзяржпагранкамітэта А. Бычкоўскі абверг чуткі, што на беларуска-расійскай граніцы на трасе Р73 з'явіліся стацыянарныя кантрольныя пункты.

**Навагрудак.** Старшым дарадцам новага прэзідэнта ЗША стаў 35-гадовы Джарэд Кушнер, ён шмат разоў наведваў радзіму продкаў, у яго тут дзед шыў галаўныя ўборы.

**Магілёў.** Пад пагрозай высялення апынуліся жыхары 5 жылых дамоў, якіх прызналі інтэрнатамі, хоць людзі пражылі дзясяткі гадоў, але болей не працуюць у будтрэсце № 12.

**Драгічын.** Вечарам падчас тушэння пажару на ферме ў вёсцы Гумнішча работнікі гаспадаркі вывелі і выратавалі ад гібелі 170 бычкоў і цёлак, агонь пашкодзіў дах.

**Мінск.** Канфлікт з Масквой, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, таксама прымушае нас наводзіць масты з Захадам, адкрываца свету, іншага шляху ў краіны ў цэнтры ЕС няма.

**Вілейка.** У райцэнтры завялі крымінальную справу на судовага выканаўцу, якая не арыштавала маёмасць даўжнікоў, жанчыне пагражае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**Мінск.** Папа Рымскі прыедзе ў Беларусь, як заявіў палітолаг Д. Мельянцоў, толькі калі гэта дазволіць РПЦ, але яна выступае супраць яго прыезду і падпісання канкардата.

**Дрыбін.** Былы гендырэктар завода халадзільнікаў "Атлант" 77-гадовы Л. Калугін стаў манахам Ніканам у царкве, пасяліўся ў вёсцы Галовічы, у якой ён нарадзіўся.

**Радашковічы.** Тэлеканал "Белсат" паказаў сюжэт аб будаўніцтве ў прыгожым месцы за пасёлкам Шаршуны рэзідэнцыі з басейнам і тэнніснымі кортамі алігарха з РФ М. Гуцэрыева.

**Гродна.** За эратычнае фота ў сацсетцы "В контакте" суд пакараў маладую гараджанку 2 гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на год і штрафам у суме 690 рублёў.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Сертыфікацыю імпартнай электратэхнікі збіраюцца ўвесці з 1 ліпеня 2018 года



■ **БЕЛТА**

**Сертыфікацыю электратэхнікі па энергаэфектыўнасці ў Беларусі плануецца ўвесці з 1 ліпеня 2018 года, паведаміў сёння журналістам намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Сямашка.**

«Па сертыфікацыі бытавой тэхнікі мы адносім тэрміны - гэта будзе ў 2018 годзе, з 1 ліпеня», - падкрэсліў віцэ-прэм'ер і растлумачыў, што да гэтага часу павінны быць зроблены сертыфікацыйныя цэнтры, якія будуць мець адпаведнае абсталяванне, каб яны маглі праводзіць выпрабаванні і выдаваць сертыфікаты.

Намеснік прэм'ер-міністра распавёў, што было дадзена даручэнне Дзяржстандарту ўнесці карэкціроўкі ў адпаведную пастанову Саўміна. «Таму адны ў спакойным рэжыме змогуць дааснасціць лабараторыі, іншыя - правесці сертыфікацыю», - адзначыў ён.

Як паведамлялася, пастановай Савета Міністраў ад 21 кастрычніка 2016 г. № 849 «Аб некаторых пытаннях пацвярджэння адпаведнасці ў Нацыянальнай сістэме пацвярджэння адпаведнасці Рэспублікі Беларусь» на асобныя віды, якая ўвозіцца, так і якая вырабляецца электратэхнічнай прадукцыі, прадугледжвалася паэтапнае (з 1 лютага, з 1 красавіка і 1 верасня 2017 гады) увядзенне абавязковай сертыфікацыі па патрабаваннях энергаэфектыўнасці.

Віды электратэхнічнай прадукцыі, для якіх прадугледжваецца дадзеная працэдура, з'яўляюцца бытавымі прыладамі, якія найбольш спажываюць энергію. Цяпер шматлікія вытворцы інфармуюць пра клас энергаэфектыўнасці выпускаемай тэхнікі і разглядаюць яго як канкурэнтную перавагу. Купляючы тавар з высокім класам энергаэфектыўнасці з мэтай эканоміі энергарэсурсаў і, адпаведна, платы за іх, спажыўцу важна, каб клас энергаэфектыўнасці сапраўды адпавядаў заяўленаму ў маркіроўцы. Пры эксплуатацыі, да прыкладу, халадзільніка класа А + плата за спажытую ім электраэнергію будзе больш чым у 2 разы менш, чым пры карыстанні халадзільнікам класа В. Увядзенне абавязковай сертыфікацыі па патрабаваннях энергаэфектыўнасці накіравана на забеспячэнне прысутнасці на рынку краіны энергаэфектыўнай прадукцыі з пэўнымі заяўленымі характарыстыкамі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Супрацоўнікі Рассельгаснагляду зноў забаранілі ўвоз на тэрыторыю Расіі больш 25 тон мяса птушкі, вырабленых на прадпрыемствах "Віткопрадукт" і Магілёва.

**Наваполацк.** Завод "Палімір" пачаў пошук патэнцыйнага інвестара, які б дапамог пабудаваць новую ўстаноўку па выпуску этылену і прапілену коштам 511 мільёнаў долараў.

**Орша.** Вечарам паблізу вёскі Высокае супрацоўнікі міліцыі затрымалі мікраўтобус з амаль 750 літрамі кантрабанднай гарэлкі з Казахстана без акцызных марак Беларусі.

**Шаркаўшчына.** Пракуратура распачала крымінальную справу супраць дырэктара КУХСП "Гарадзец" за арганізацыю закупак матэрыялаў па завышаным коште з уронам 60 тысяч.

**Віцебск.** З 58-гадовым генеральным дырэктарам "Віцебскхарчпрама" не прадоўжылі кантракт, ён паехаў у Полацк на службовай машыне сам, здзейсніў дарожна-транспартнае здарэнне з трыма пацярпелымі.

**Полацк.** Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел правёў Боскую літургію ў Спаса-Еўфрасіньеўскім манастыры разам з архіепіскапам Феадосіем.

**Верхнядзвінск.** Праз некалькі дзён пасля дастаўкі ў раённую бальніцу памерла жыхарка вёскі Бялькоўшчына ад чэрапна-мазгавых траўм, так моцна сваю маці збіў яе 32-гадовы сын.

**Лепель.** За незаконны вылаў больш 13 кілаграмаў ракаў пад суд пойдуць двое жыхароў раёна ва ўзросце 34 і 36 гадоў, турма пагражае і траім віцяблянам за здабычу амаль 19 кілаграмаў ракаў.

**Наваполацк.** Суд пакараў 42-гадовага кіроўцу-ліхача грамадзяніна Расіі, які насмерць збіў восенню на пешаходным пераходзе дзяўчынку, 2,5 гадамі калоніі-пасялення.

**Віцебск.** Шэраг траўм атрымала малая дзяўчынка, якая выпала з санак і патрапіла пад колы аўтамабіля "хуткай дапамогі", у аварыю трапіла і сям'я з цяжарнай жанчынай.

**Докшыцы.** Вельмі буйны штраф 20,7 тысяч рублёў заплоціць жыхар вёскі Слабада за ўстаноўку 5 петляў-пастак у Бярэзінскім запаведніку і забойства лася.

**Віцебск.** Ва Украіне распачалі крымінальную справу па факце ўдзелу 33-гадовага віцябляніна ў баявых дзеяннях на баку сепаратыстаў батальёна "Русь" у Данбасе.

**Лепель.** У рэанімацыі раённай бальніцы памерла ад атрыманых траўм у ДТЗ на трасе М3 каля вёскі Барсукі пасля сутыкнення з фурай 54-гадовая жанчына-кіроўца "Мазды" з Мінска.

**Глыбокае.** Праз 9 месяцаў на пустыры паміж СШ №3 і чыгуначным вакзалам павінен з'явіцца новы сучасны 2-павярховы будынак раённага суда плошчай 1726 кв. метраў.

**Віцебск.** Выйшлі з адпачынку футбалісты ФК "Віцебск", склад каманды практычна захаваўся, як і леташні бюджэт, пасля трэніровак дома клуб паедзе на збор у Смаленску.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ралі Парыж - Мосар – пачатак новых традыцый нашага краю?

■ Уладзімір Скрабатун

*Працяг. Пачатак на стар.1*




**Поспех беларускай каманды на ралі-рэйдзе «Дакар-2017» натхніў «Мінскі трактарны завод» на арганізацыю гонак па бездаражы на трактарах. Таму першая ў гісторыі Беларусі падобная экспедыцыя рушыла 28 студзеня з Парыжа Пастаўскага раёна. Машыны меліся праехаць 17 кіламетраў і фінішаваць у вядомым мястэчку Мосар.**

**Для ўдзелу ў гонцы ў гонар Дня беларускай навукі прыбылі сем трактароў BELARUS-3522 — самыя магутныя машыны вытворчасці МТЗ. У дадатак – прайсці выпрабаванні высунуўся і восьмы трактар BELARUS-2103 на гусенічным ходзе. Сямнаццаць кіламетраў па пераараных палях, воднай перашкодзе, лясных сцежках, праз рукатворныя перашкоды толькі на першы погляд могуць падацца невялікай адлегласцю.**

### Куплю дом у Парыжы?

У 2008 годзе на старонках нашай газеты з'явілася прыватная абвестка з такім тэкстам – "Прадам дом у Парыжы". А раптам, неўзабаве, праз колькі гадоў, будзе ўжо не праблемай прадаць за капейкі дом у згасаючай вёсцы Парыж, а наадварот – **купіць** як мага танней у дом у квітнеючай вёсцы Парыж? Хацелася б у такое верыць!

Так, сапраўды, згасанне гэтай вёскі кідаецца сёння ў вочы! У цэнтры паселішча – некалькі 2-павярховых дамоў з забітымі дошкамі вачніцамі акон. Дзякуй, Богу, закансервавалі, не разбурылі... Дачакаецца Парыж мо і лепшых часоў!

Ці думала, ці гадала, мясцовы краязнаўца Алена Васілеўская, гадоў пятнаццаць таму, калі пачынала збіраць подпісы жыхароў Навадруцка за вяртанне яго гістарычнай назвы Парыж, што вёсцы не толькі пашанцуе вярнуць яе, але, што з гэтай нагоды, назва вёскі стане прыцягальнай і для турыстаў, і для арганізатараў першага ў Беларусі трактарнага ралі Парыж-Мосар? Ралі, якое прэтэндуе стаць традыцыйным і штогадовым! Напэўна, не! Хутчэй за ўсё, гэта было толькі праявай мясцовага патрыятызму. Але, што мы бачым цяпер! Вяртанне гістарычнай назвы адкрыла для Парыжа далёкаідучыя перспектывы! Хто ведае, мо Парыж адгарнуў сёння лепшую старонку сваёй будучыні!

Аднак наўрад ці Парыж (Навадруцк) за ўсю гісторыю свайго існавання бачыў і прымаў – у адзін дзень! – столькі людзей, столькі аўтамабіляў, як у суботу 28 студзеня 2017 года!

Тут адбылося ўрачыстае адкрыццё першага беларускага трактарнага ралі Парыж-Мосар. У гасцях былі дзясяткі журналістаў, відэааператараў, адказных асобаў з міністэрстваў, прадстаўнікоў Мінскага трактарнага завода, кіраўнік не толькі Пастаўскага раёна, але і кіраўнік вобласці Мікалай Шарстнёў. Свята нашай беларускай навукі і тэхнікі!

Пасля ўрачыстай часткі, на полі за Парыжам, быў дадзены старт ралі. А шматлікая кавалькада машын з цікаўнымі рушыла на Мосар!

Варта адзначыць, што і гледачы, якія прыехалі адмыслова толькі ў Мосар, не былі пазбаўленыя магчымасці назіраць за падзеямі ў Парыжы, як і за ўсімі падзеямі па трасе ралі. Усё відэа выводзілася ў Мосары на манітор ля галоўнай сцэны свята – у паветры знаходзілася некалькі дронаў (беспілотнікаў) з відэакамерамі.

### Заторы ў Мосары!

Мосар, у адрозненне ад Парыжа, ужо звыкся да шматлюднасці на сваіх вуліцах: штогадовыя парафіяльныя фэсты, прыезды па некалькі аўтобусаў з турыстамі адначасова! Аднак і ў самыя лепшыя часы Булькі, хіба, калі-небудзь, ці было тут столькі людзей і аўта, як 28 студзеня 2017-га? Хто, і як лічыў, не вядома! Але называюцца лічбы: 1500 аўтамабіляў і пад 4500 прысутных на гэтым свяце. Ад касцёла св. Ганны – па ўсіх накірунках – кіламетровыя скупнасці машын і людзей - ні прайсці, ні праехаць, ні прыпаркавацца. Пад'ехала ж, натуральна, яшчэ і вялікая колькасць людзей на машынах з Парыжа!

### Ралі Парыж - Мосар стане штогадовым?

Ці чакалі арганізатары трактарнага ралі такога наплыву людзей? Ды яшчэ з усёй Беларусі! Не будзем гадаць! Відавочна, што наведвальнасць ралі пераўзышла, перадусім, чаканні саміх арганізатараў і не стала іх "першым блінам комам", дакладна! Зважаючы на нечуваную цікавасць да гэтага ралі не толькі з боку жыхароў Глыбоччыны і Пастаўшчыны, але і ўсёй краіны, са сцэны прагучалі словы адказных асобаў – ралі павінна быць традыцыйным і штогадовым!

Гэта можа ў далейшым стацца знакавай падзеяй года не толькі для Парыжа і Мосара, але і ўсяго Пастаўскага і Глыбоцкага раёнаў. Само ралі, перадусім, вялікае свята, сцэнар якога можа штогод удасканальвацца, дадавацца новымі намінацыямі, новымі традыцыямі. Але, прыгэтым, можна палічыць і іншы дадатны момант – вагу шашлыкоў, якую з'ядуць, і "барэлі" напояў, што вып'юць наведвальнікі, у даходы пастаўскага і глыбоцкага гандляў. У дадатак можна і шмат чаго іншага падлічыць! Колькасць прададзеных сувеніраў! А мо і колькасць – у будучыні – наўпрост, у Мосары, прададзеных для фермераў, па льготных коштах, мінітрактароў "Belarus"? Чаму б і не! Экскурсіі на дзень ралі з іншых гарадоў краіны.



Парыж. Добры піярход рыбгаса "Навінкі"! Вельмі шмат прысутных стаялі не з кубкам кавы, а з куфлем рыбнай юшкі! Юшку гатавалі на паходнай кухні, наўпрост на пляцы, дзе адбывалася ўрачыстае адкрыццё трактарнага ралі. *Фота Ул. Скрабатуна.*

### Свята беларускай навукі і тэхнікі!

Нельга скідваць з шаляў і такі дадатны вынік ад правядзення падобных маштабных мерапрыемстваў, як фармаванне сучаснай беларускай ідэнтычнасці. А ў гэтым накірунку два апошнія дзесяцігоддзі амаль нічога не рабілася. Наадварот, шмат рабілася адмоўнага, напрыклад, масава зачыняліся беларускія школы. У беларусаў мусіць быць гонар за сваю краіну, гонар за дасягненні нашай навукі і тэхнікі. Гонар жыць у сваёй незалежнай краіне! А як прышчапіць гонар? Недзе, у Навагрудку напрыклад, праводзяцца фэсты сярэднявечнай беларускай культуры, куды едзе ўся Беларусь, а ў нас няхай будзе трактарнае ралі – Парыж-Мосар, куды прыедзе таксама ўся Беларусь!

### Ралі адбудуцца ізноў улетку?

Падчас цырымоніі ўзнагароджання трактарыстаўгоншчыкаў прагучала асцярожная заяўка на паўтор падобнай гонкі ўлетку, і зноў у Парыжы, толькі ўжо ў Чалябінскай вобласці Расійскай Федэрацыі. Ёсць і там Парыж!

### Хібы ў Мосары

Уся Беларусь у каментарах да навінаў на сайтах аб трактарным ралі абураецца: "Вось нафіга здратавалі гусянічным трактарам "Belarus 2103" Булькаў асфальт у дэндрапарку?" Якая патрэба была яму ехаць да галоўнай сцэны свята? Ну і стаяў бы ён на калгасным полі, дзе фінішаваў, і надалей, тым больш, што потым ён тузгаўся з колавым трактарам "Belarus 3522" на гэтым жа полі. І перамог!

Па-другое. Галоўная сцэна Мосара зробленая насуперак усялякае логікі! Ва ўсіх Дамах культуры, тэатрах, стадыёнах – прысутныя глядзяць на сцэну зверху ўніз! Чаму ў Мосары зроблена ўсё наадварот? Лагічна было б сцэну паставіць унізе, напрыклад, ля вадаёма. Тады зверху, г.зн, з пагорка, тысячы, а не два дзясяткі людзей, будуць назіраць за тым, што адбываецца на святочнай сцэне. Хацелася б, каб гэтыя пажаданні ўспрынялі як сяброўскую параду, а не жорсткую крытыку!




Парыж. Выезд трактароў за вёску на стартавую пазіцыю ралі. *Фота Ул. Скрабатуна.*






Кранальны момант мосарскіх урачыстасцей! Юным жыхарам Мосара – падарункі: школьныя прыналежнасці з лагатыпамі Мінскага трактарнага завода. *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Не жылі добра, і пачынаць не будзем?

Уладзімір Скрабатун

Аднойчы, на глыбоцкім рынку, у месцы рэалізацыі прадукцыі рыбгаса "Навінкі", кажу жартам прадаўцу: "Што вы тут мёрзнеце ў гэткую сцюжу! Адкрыў бы ваш рыбгас у Глыбокім рыбны магазін, а заадно і рыбны рэстаран! Кансервавы цэх у Навінках трэба паставіць!"

Я, натуральна, разумею, што з прадаўцом можна пажартаваць, і не болей! Яна ж не вырашае такія пытанні. Вырашае дырэктар, а мо і над дырэктарам – міністр!

Аднак прадавец жарт успрыняла ўсур'ёз: "Ага! Адкрыеш! Цябе падаткамі і праверкамі як абкладуць, што мала не падасца! Голым будзеш! Не выгадна! А кансервы з нашай рыбы робяць у Мінску! Можаце купіць, во, на паліцы стаяць – карп у тамаце".

Вось яна ісціна! Нічога рабіць не выгадна! За "бугром", чамусьці, выгадна. Нам шлюць і яблыкі, і кансервы, і мяса... А ў нас і араць, і сеяць – хоць трэсні! – не выгадна. Нічога не рабіць – выгадна! Ва ўсялякім разе ,"не прагарыш"!

Пра ўсё гэта можна было б і не згадваць, і так усе разумеюць... Аднак ізноў удар пад дых!

"Белтэлекам" яшчэ да Новага года прыслаў нам паведамленне – з 1 лютага 2017 года на нумару 166 прыватныя абвесткі больш прымацца не будуць. Дамова касуецца! Восем гадоў прымалі абвесткі!!! Было выгадна ўсім: рэдакцыі, людзям, самому "Белтэлекаму". Цяпер не выгадна! Па ўсёй Беларусі касуецца гэта паслуга.

У Віцебскай вобласці, гэта ж не толькі "Вольнае Глыбокае"! 21 раён – 21 раённая газета, плюс абласныя газеты, яшчэ пэўная колькасць прыватных рэкламных газет у Полацку, Оршы, Віцебску... Не выгадна!

Цяпер – праблема! Як з Шаркоўшчыны падаць прыватную абвестку? Як падаць з Празарок, Язна, Дзісны? Ехаць у Глыбокае? Бензіну спаліш болей, чым тая абвестка каштуе!

Дзясяткі тэлефанаванняў штодня: "Як цяпер падаць абвестку ў вашу газету?"

Нешта, натуральна, можна прыдумаць – прымаць абвесткі, як і раней, у месцах продажу газеты. Можна прыняць па адрасе рэдакцыі. Але, перадусім, гэта рэальна можна зрабіць толькі ў Глыбокім і на рынках іншых паселішчаў, у пунктах рэалізацыі газеты.

Як быць з Лепелем? Полацкам? Тут, хіба што, пакуль будзем вырашаць гэтае пытаанне індывідуальна.

Дарэчы, некаторыя нашыя чытачы, самі вынайшлі свой варыянт: прысылаюць абвестку па электроннай пошце, а разам з гэтым фота чэка з аплатай на наш рахунак.

Пэўны час будуць праблемы, аднак, можа, і мае калегі з іншых гарадоў краіны ці мы самі, вынайдзем унікальны варыянт прыёму прыватных абвестак. І сітуацыя неяк "разруліцца".

# Сядзячы лад жыцця скарачае яго працягласць

**Сядзячы лад жыцця паскарае старэнне клетак на генетычным узроўні, распавялі навукоўцы ў артыкуле, апублікаванымувыданні American Journal of Epidemiology.**

Па словах спецыялістаў, клеткі старэюць хутчэй, калі чалавек вядзе малярухомы лад жыцця. Таксама варта ўсведамляць, што фактычны ўзрост не заўсёды адлюстроўвае біялагічны, г. зн. бываюць выпадкі, калі чалавек старэе хутчэй, чым ідзе час.

Пры сядзячым ладзе жыцця ў арганізме чалавека ўзрастае колькасць аксідантаў і іншых агрэсіўных малекул у клетках. Гэта вядзе да анамальна хуткага скарачэння даўжыні целамер — канцавых участкаў храмасом, якія знаходзяцца ў ядры кожнай клеткі чалавечага арганізма і абараняюць ДНК ад пашкоджанняў, — і, адпаведна, да іх паскоранага старэння. Пры кожным дзяленні клеткі целамеры становяцца карацейшымі, а калі іх даўжыні аказваецца не дастаткова для новага дзялення, клетка гіне.

Адзначаецца, што даўжыня целамер і іх стан залежыць не толькі ад ладу жыцця, але таксама і ад агульнага стану арганізма. Гэта значыць, што да змены могуць прывесці дэпрэсія, стрэс, беднасць, пастаянныя перажыванні.

Да адкрыцця навукоўцы прыйшлі пасля назірання за здароўем амаль паўтары тысяч амерыканак ва ўзросце ад 64 да 95 гадоў. Удзельніцы пагадзіліся здаць неабходныя аналізы, адзначыўшы, наколькі актыўны лад жыцця вядуць.

Прааналізаваўшы атрыманыя дадзеныя, спецыялісты прыйшлі да высновы, што жанчыны, якія вядуць сядзячы лад жыцця, фактычна на дзевяць гадоў старэйшыя за сваіх аднагодак, якія не сядзяць на месцы.

Такім чынам, адзначылі медыкі, прапаганда сярод пенсіянераў актыўнага ладу жыцця дапаможа прыкметна падоўжыць ім жыццё. Таксама вельмі важна прывіваць любоў да спорту і актыўнага ладу жыцця з самага дзяцінства.

nn.by

# Група NAVIBAND выступіць у другім паўфінале "Еўрабачання-2017"

**Група NAVIBAND выступіцьудругімпаўфінале "Еўрабачання-2017", паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**



Лёсаванне выступаў краін-удзельніц транслявалася ў анлайн-рэжыме. Песню "Гісторыя майго жыцця" каманда выканае 11 траўня. Беларусь у 14-ы раз бярэ ўдзел у самым маштабным музычным шоў Еўропы, і песня на беларускай мове прагучыць на міжнародным конкурсе ўпершыню. Перш канкурсанты з Беларусі выконвалі кампазіцыі на англійскай. Прадстаўнік Расіі таксама выступіць у другім паўфінале. Акрамя таго, сёння прайшла цырымонія перадачы сімвалічных ключоў конкурсу ад Стакгольма Кіеву. Міжнародны конкурс песні "Еўрабачанне-2017" пройдзе ў Кіеве з 9 па 13 траўня. Першы паўфінал адбудзецца 9 траўня, другі - 11-га, фінал - 13 траўня. Удзел у конкурсе прымуць 43 краіны.

*БелТА*.

# «Падарожжа дылетанта» будзе цяпер выходзіць на Tut.by

**Вядомы беларускі праект пра падарожжы — «Падарожжа дылетанта» — разам з нязменным аўтарам і вядоўцам Юрыем Жыгамонтам вяртаецца ў эфір. Гэтым разам праект будзе выходзіць на партале TUT.BY. Вяртанне ў эфір адбылося праз замежжа: упершыню за гісторыю праекта пан вядоўца выехаў з Беларусі, каб з нагоды 500-годдзя першай беларускай друкаванай Бібліі распавесці пра Прагу Францыска Скарыны.**

Пражская серыя складаецца з двух выпускаў, першы вы бачыце сёння, а другі выйдзе праз тыдзень — 7 лютага. Пасля паездкі ў Чэхію самы знакаміты дылетант вернецца да падарожжаў па Беларусі з новымі накірункамі і цікавымі фактамі. Цяпер «Падарожжа дылетанта» ствараецца пры падтрымцы velcom і будзе выходзіць на партале TUT.BY два разы на месяц.

«Падарожжа дылетанта» ўпершыню накіравалася за межы Беларусі, каб распавесці пра тыя мясціны, дзе калісьці жыў і працаваў беларускі першадрукар Францыск Скарына. У праграме паказаны той самы будынак, дзе, па меркаваннях навукоўцаў, выйшла ў свет першая друкаваная кніга на беларускай мове, а таксама шмат іншых месцаў, звязаных з вядомым асветнікам і гуманістам.

— Праграма існуе ўжо больш за 15 год. За гэты час, канешне, адбылося імклівае развіццё новых тэхналогій. І мне разам з маей камандай хацелася, каб як мага больш беларусаў працягвалі глядзець перадачу і адкрывалі яе для сябе, — адзначыў Юрый Жыгамонт. — Новы фармат і рэсурс, на якім будзе выходзіць праграма, адкрывае перад ёй новыя вялікія магчымасці. Таму я вельмі ўдзячны партнёрам — кампаніі velcom і парталу TUT.BY — за тое, што мы змаглі зберагчы самабытнасць «Падарожжаў дылетанта», але і разам з гэтым даць новае жыццё праграме».



**Юрый Жыгамонт у вёсцы Бычкі ў ролі вядоўцы на штогадовых спатканнях з нагоды Дня народзінаў славутага беларускага пісьменніка Васіля Быкава.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Галоўны рэдактар TUT.BY Марына Золатава сама з'яўляецца сталай глядачкай праграмы і надае ёй заслужаны статус беларускага брэнда. *«Мы вельмі радыя, што цяпер зможам развіваць праект разам»*, — адзначыла рэдактар.

«500-годдзе першай беларускай друкаванай кнігі Францыска Скарыны — гэта значная дата, якая заслугоўвае вялікай увагі. — адзначыў кіраўнік аддзела карпаратыўных камунікацый velcom Вячаслаў Смірноў. — Нацыянальная гісторыя і культура — вельмі важныя каштоўнасці для нашай кампаніі. Праграма «Падарожжа дылетанта» асабіста для мяне з'яўляецца такім скарбам, які для многіх беларусаў знаёмы з дзяцінства. Яе аднаўленне ў сучасным лічбавым фармаце дазволіць яшчэ больш пашырыць кола яе гледачоў і прыхільнікаў».

*Tut.by*

# У Глыбоцкім раёне здзейснены разбойны напад на пенсіянерку

**Пенсіянерка з вёскі Руднікі Глыбоцкага раёна рана раніцай 24 студзеня звярнулася ў міліцыю з заявай аб разбойным нападзе.**

Па яе словах каля 23:00 папярэднім вечарам у яе дом, адціснуўшы дзверы, уварваўся невядомы мужчына і з ужываннем гвалту адняў прадукты і спіртныя напоі. Пасля гэтага нападнік схаваўся.

Папярэдне праваахоўным органам атрымалася ўсталяваць: разбойны напад здзейсніў 41-гадовы жыхар вёскі Кульгаі. Падазраваны затрыманы, частка выкрадзенага канфіскавана, паведамляе прэс-служба МУС.

*ННВ*.

# За суткі ў Віцебскай вобласці аштрафавалі 63 пешаходы без флікераў

**За мінулыя суткі (31.01) у Віцебскай вобласці да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правіл дарожнага руху былі прыцягнуты 142 пешаходы, 63 з іх былі без флікераў, а 13 — п'янымі.**

58 кіроўцаў і пасажыраў паплаціліся за не прышпіленыя рамяні бяспекі, 41 чалавек — за парушэнне хуткаснага рэжыму. Таксама ДАІ атрымалася злавіць 11 бяспраўнікаў і 6 чалавек, якія селі за руль нецвярозымі.

За гэты час у вобласці адбылося 21 ДТЗ з матэрыяльным уронам, паведамляецца на сайце УУС Віцебскага аблвыканкама.

*ННВ*.

# Могуць назірацца перадзаморныя і заморныя з'явы

■ **А.А. Федзічкін,**
*нам. начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**У наш час на некаторых вадаёмах Пастаўскага і Глыбоцкага раёнаў можа назірацца пагаршэнне ўмоў зімоўкі рыбы. Гэта звязана з багатым снежным полагам, рэзкімі зменамісярэднясутачных тэмператур. У выніку на асобных водных аб'ектах могуць адзначацца перадзаморныя і заморныя з'явы.**

У адпаведнасці з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў выпадку ўзнікнення ў рыбалоўных угоддзях перадзаморных ці заморных з'яў, пацверджаных дадзенымі гідрахімічных даследаванняў, праведзеных атэставанымі лабараторыямі – парадак і ўмовы лоўлі рыбы вызначаюцца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненні з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і са структурнымі падраздзяленнямі Дзяржаўнай інспекцыі.

У выпадку калі асаблівы парадак і ўмовы лоўлі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі не ўсталяваны, рыбаловамі-аматарамі павінны выкарыстоўвацца толькі прылады аматарскага рыбалоўства, дазволеныя Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, а менавіта вуды, жарліцы, падхватнікі, дыяметрам не больш за 0,5 метра з памерамі вочка меней 10 мм, пад'ёмныя сеткі памерам не больш за 1х1м і памерам вочка меней 10 мм. Падхватнікі і пад'ёмныя сеткі могуць выкарыстоўвацца толькі для лоўлі рыбы ў якасці прынады для лоўлі іншых відаў рыб (не больш за 30 штук на аднаго рыбалова ў суткі).

Прылады і спосабы рыбалоўства не ўказаныя ў Правілах вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства з'яўляюцца забароненымі. За выкарыстанне забароненых прылад лоўлі прадугледжана адказнасць, у адпаведнасці з заканадаўствам.

Аб усіх парушэннях можна паведаміць па тэлефоне даверу 8-02156-5-59-70 кругласутачна, маб.: МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

## МНС інфармуе
**на 31.01.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 84;
Гібель людзей – 20, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 5;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Не нашкодзь прыродзе і не нашкодзіш сабе сам!

■ **А.Г. Абрамчык,**
*ст. дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі штогод выяўляюцца дзясяткі парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, склад і характар іх розны. Пры здзяйсненні правапарушэнняў прычыняецца шкода навакольнаму асяроддзю, напрыклад, пры скідзе забруджвальных рэчываў у водны аб'ект; незаконным вынятку, знішчэнні ці пашкоджанні дрэў і хмызнякоў да ступені спынення росту; забруджванні ляснога фонду адыходамі; незаконным вынятку ці знішчэнні дзікіх жывёл, уключаючы гібель рыбы і іншых водных жывёл; знішчэнні ці пашкоджанні мурашнікаў, гнёздаў, нор ці жылля дзікіх жывёл (за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўчымі актамі) і інш.



Незаконна здабытая казуля ля в. Казлоўшчына Пастаўскага раёна.

За парушэнне правілаў рыбалоўства, палявання і лесакарыстання да вінаватых асобаў ужываюцца штрафныя санкцыі, а ўрон, прычынены навакольнаму асяроддзю, падлягае пакрыццю ў поўным аб'ёме.

Так, пры незаконнай парубцы дрэў прыйдзецца пакрыць шкоду ад 0,05 – 3 базавыя велічыні (далей – БВ) у залежнасці ад дыяметра дрэва ў пня, незаконнай здабычы лася – 300 БВ, казулі – 120 БВ, незаконным вылоўліванні шчупака – 3 БВ, ліна – 6 БВ, за незаконны збор ці знішчэнне лясной падсцілкі ці жывога надглебавага полагу за 1 м² – 1 БВ і г.д. Таму, хацелася б звярнуцца да грамадзянаў: беражыце прыроду!

Не нашкодзь прыродзе і не нашкодзіш сабе сам!

Аб усіх парушэннях можна паведаміць на тэлефон даверу 8-02156 5-59-70 кругласутачна, маб.: мтс 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Аўтамабіль трэба пакідаць на адлегласці не бліжэй за 30 метраў ад берагавой лініі!

## За невыкананне Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі – штраф: рыбаловам да 20 базавых велічыняў, арандатарам да – 500!

■ **А.А. Федзічкін,**
*нам. начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Рыбалка – гэта адна з найболей частых тэм гутарак моцнай часткі насельніцтва. Мужчынам ёсць што абмеркаваць! На што лавіць, дзе і якія снасці выкарыстоўваць. Аб лоўлі рыбы мы чуем вельмі часта, бо гэта прыемны і незабыўны адпачынак, любімы занятак мужчын, для якога яны заўсёды імкнуцца адшкадаваць час са свайго цяжкага працоўнага графіку. Гэта можа быць запланаваны адпачынак ці проста падыходныя вольныя выходныя – для аматараў парыбачыць розніцы няма.

З наступленнем лёдаставу з кожным днём павялічваецца колькасць рыбаловаў-аматараў на вадаёмах. У сувязі з гэтым, лічым неабходным нагадаць, што на рыбалцы неабходна выконваць пункт 98 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у якім указана, што рыбаловы, якія здзяйсняюць аматарскае рыбалоўства, абавязаны падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на лёдзе, берагах смецце і іншыя адыходы. Таксама, прыязджаючы на рыбалку на аўтамабілі, неабходна яго пакідаць на адлегласці не бліжэй за 30 метраў ад берагавой лініі воднага аб'екта. За дадзеныя парушэнні цягне накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь. Арандатары рыбалоўных угоддзяў таксама абавязаныя падтрымліваць належны санітарны стан арандаваных рыбалоўных угоддзяў, арандатару за такое парушэнне пагражае штраф ад ста да пяцісот базавых велічынь. Таксама мы звяртаемся да грамадзян, якія прыязджаюць у рыбалоўныя ўгоддзі проста адпачыць: не пакідайце пасля сябе смецце, не ламайце альтанкі, лаўкі, якія зроблены для вашага адпачынку. Таксама просьба да рыбаловаў-аматараў: не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі.

Аб усіх парушэннях можна паведаміць на тэлефон даверу 8-02156-5-59-70 кругласутачна, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

